# ЗЬМЕСТ:



НА ВОКЛАДЦЫ ВЯЗУЦЬ СТАЛЁВЫХ КОНЯЙ

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!
САКАВІК 1931
АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59
Тэл № 17—09
6

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ



ЗА ЎДАРНЫЯ ТЭМПЫ РАБОТЫ




**Меншавікам-інтэрвэнтам адкажам новым уздымам працоўных мас.**

# ТРЫВОГА

**Апавяданьне**
**ЦІМОХА ЗАРЭЧНАГА**

НА гуце расла небяська: узьнімалася ўгару крывая брака, зьніжалася якасьць выпускаемай продукцыі, падала дысцыпліна. Лепшая ўдарная брыгада, у якую ўваходзілі Сьцяпан Гарбуз, Ляксей Буры, Антось Шалы, Пятрусь Гарушка і іншыя рабочыя, пачала здаваць: якасьць працы нельга было параўнаць з ранейшай, ды і колькасьць была куды меншая.

Партком разам з заўкомам па зьменах праводзілі лятучыя мітынгі. На начной зьмене мітынгам кіравалі сакратар партколектыву Шаганаў Лявон і старшыня заўкому Паркан Астап. На дварэ гуты - шырокім, гразкім, з дошкамі пад нагамі, з гарою жвіру каля сьцяны і ярусамі бутэлек пад павецьцю — сабралася за сотню рабочых начной зьмены, толькі што зышоўшай з работы, каб даць месца ранішнікам. Раніца была хмарная, па асеньняму азызлая, з пранізваючым паўночна-ўсходнім ветрам. Мітынг адчынілі пад адкрытым небам, на дварэ.

Шаганаў Лявон — высокага росту, з буйнымі рысамі твару — размашыстай паходкай узышоў па ўгорак жвіру, папрасіў супакоіцца і адразу-ж, ня трацячы час на выбары прэзыдыуму, як гэта звычайна бывае на кожным сходзе, пачаў гаварыць. Словы яго здаваліся акруглёнымі, важкімі, намагнэтызаванымі, хоць і гаварыў ён ціха, спакойна, гэстамі рукі падкрэсьліваючы асабліва важныя месцы. Прамова яго ня была ўзьнятай, перапоўненай патосам, — ён проста, па-дзелавому, браў адзін, два, тры факты і, падаючы іх сходу, рабіў кароткі вывад, сумнявацца ці супярэчыць якому ні ў якім разе нельга было — такі ён быў лёгічны, сам вынікаючы з пададзеных фактаў.

— Колькі сярэдняя норма выпрацоўкі паўлітраў на варштат? — запытваў сам у сябе Шаганаў. І тут-жа адказваў: — 1250. А колькі мы даём? — 983. Мы можам, гэта даведзена, даць 1300 бутэлек, а то і больш. Сярэдняя норма выпрацоўкі на варштат ланінскай бутэлькі складае 1300. У нас, таварышы, былі выпадкі, калі лепшыя ўдарнікі ўзьнімалі гэту лічбу да 1450. Цяпер-жа мы маем усяго толькі 1025, ды і гэта лічба з кожным днём зьмяншаецца. Узяць яшчэ бутэлькі для сітра. Сярэдняя норма на варштат — 1150, максымум — 1250, у нас-жа цяпер ёсьць толькі 990. Ці, урэшце, возьмем варштат Калакалухі, які выпрацоўвае пэнэкспальлеры. Сярэдняя норма на гэты варштат — 2400, максымум — 2600, на самай-жа справе ёсьць толькі 1804.

Калакалуха, які стаяў водаль, з боку, і гутарыў аб нечым з Нупрэем Перапечкам — сваім суседам па рабоце і хаце, пачуўшы сваё прозьвішча, устрапянуўся, падышоў бліжэй да Шаганава і запытаў у аднаго з рабочых:

— Што ён там пра мяне?

— Ды нічога: пра варштат твой.

— А што яму мой варштат ражном у глотцы перасеў?

— Ды нічога, — ён пра ўсіх.

— Як гэта пра ўсіх?

— Усіх крые.

— А сам ён працаваў?

Паркан Астап заўважыўшы, што майстар Калакалуха перашкаджае гаварыць Шаганаву, голасна папрасіў:

— Таварышы... ды цішай там!

— Якое „ці-шай!“ — адгрызнуўся Калакалуха. — Я гавару: няхай-бы ён сам прапрацаваў.

— Цішай, таварышы, — пасьля выкажэцеся! — заспакойваў Паркан.

— Цішай вады, ніжай травы, га? І гэта завецца самакрытыкай?

— Таварышы...

Шаганаў Лявон, быццам не заўважаючы выкрыкаў Калакалухі, гаварыў, што гута ў другім квартале выканала заданьне на 109 проц., у трэцім на — 105 проц. а ў першы месяц чацьвертага — усяго на 84 проц. Шаганаў гаварыў, што калі ўзяць, да пры-

кладу, выкананьне на сямнаццатае за 100, то дваццаць чацьвертага яно будзе складаць толькі 73 проц.

— Гэта, таварышы,—гучней гаварыў Шаганаў,—найвялікшы прарыў, які з няўхільнасьцю ўсё шырэй і шырэй ахапляе нашу гуту. Толькі рашучы контрудар, бязьлітасная лабавая атака, сустрэчная сіла можа спыніць пасоўваньне прарыву, можа яго ліквідаваць!

— Вайна табе ці што?—падышоўшы зусім блізка буркнуў Калакалуха.

— Мобілізацыі не хапала толькі,—падтрымаў яго Нупрэй Перапечка.

— І вайна і мобілізацыя!—горача паказваючы рукой на Калакалуху і Перапечку, загаварыў Шаганаў.—І вайна. і мобілізацыя, паўтараю! На нашы нявольніцкія тэмпы, на вас, прарыўшчыкаў прамфінпляну! Хто ня верыць у нашы магчымасьці, хто ня хоча дапамагаць нам, адыходзь, ня блытайся!

Воплескі і выкрыкі заглушылі прамову Шаганава. Ён некалькі разоў спрабаваў загаварыць, але шум натоўпу не дазваляў гэтага зрабіць.

— Правільна, Шаганаў!

— Даёш тэмп!

— Далоў опортуністаў!

— Замаўчы Калакалуха!

— Такіх сьлюнцяяў нам ня трэба!

— З такімі прусакоў на печы лавіць, а не на гуце працаваць.

— Братцы, я-ж ня супроць. .—апраўдваўся Калакалуха, хоць яго ніхто ня слухаў.—Я падтрымліваю таварыша Шаганава... Я за лінію генэральнае партыі...

Доўгі час ня мог уціхамірыцца шум. Толькі пачынаў гаварыць Шаганаў, шум узьнімаўся, і словы Шаганава губляліся ў гаме галасоў. Урэшце, калі шум зусім сьціх, Шаганаў пачаў канчаць прамову.

— ... капіталісты ўсіх краін шалёна рыхтуюцца да вайны супроць Савецкага Саюзу. Яны куюць зброю, пры дапамозе якой хочуць задушыць першую рабочую краіну ў сьвеце. Адчуваючы сваю блізкую пагібель, яны з ліхаманкавай пасьпешнасьцю зьбіраюць сілы, організоўваюцца, умаўляюцца калі зручней зрабіць напад на ненавісную ім дзяржаву, зрабіць напад для таго, каб жалезам і стальлю разбурыць соцыялістычнае будаўніцтва, зьмесьці з твару зямлі ўладу рабочых і сялян, крывавым мячом аднавіць капіталізм у СССР. Замежным капіталістам дапамагаюць нашы ўнутраныя ворагі. Яны яшчэ ня зьнішчаны, яны яшчэ чапляюцца сваімі кіпцюрамі за нас, спрабуюць сарваць тэмпы соцыялістычнай рэконструкцыі, затармазіць наш пераможны наступ.

— Адпор ворагу!—выкрыкнуў нехта з задніх радоў.

— Не адпор, а наступ, таварышы!—падхапіў Шаганаў, глянуўшы ў той бок, адкуль пачуўся выкрык.—Наступ па ворага, таварышы! Наш рабочы колектыў—узвод у агульнай арміі пролетарыяту. Наша ўдарная задача—весьці соцыялістычны наступ, узрываць акопы ворага, перамагаць цяжкасьці на шляху будаўніцтва соцыялізму. Што-ж мы можам сказаць пра сябе, пра свой невялікі ўзвод? Ні к чорту ня варты, таварышы! Так не працуюць! Мы ад сябе можам патрабаваць большага! Як мы выконваем умову на соцыялістычнае спаборніцтва? Як працуюць нашы ўдарныя брыгады? Нам сорамна таварышы,—мы адстаем ад іншых заводаў. Што-ж мы можам сказаць рабочым гуты Першамайскай, якія неўзабаве прыедуць да нас правяраць, як мы выконваем соцыялістычную ўмову? Як мы можам глядзець ім у вочы, калі яны організавалі сустрэчны прамфінплян і перавыканалі заданьні на асноўных паказчыках? Скажэце: матэрыял падаецца дрэнны. Правільна. Давайце палепшым якасьць сыравіны. Скажэце: ванная печ папсавалася. Правільна. Давайце адрамантуем яе. Шмат прычын ёсьць, але для прарыву няма ніякіх прычын, заданьне партыі мы павінны выканаць.

Паркан запытаў, хто жадае выказацца. Рабочыя маўчалі. Была цішыня, якая магла перарасьці ў напружанасьць. З неба марусіла рось—дробная, нябачная і сьцюдзёная. Час ад часу на двары шугаў вецер. Недзе на страсе барабаніла бляха. Была звычайная асеньняя раніца азызлая і гразкая, з мутнымі даляглядамі і нізкай да самай зямлі павалокай хмар. Пад самымі хмарамі ляцелі журавы,—людзі ўзьнімалі галовы, глядзелі на іхні стройны кут у 45 градусаў, лічылі падарожнікаў у далёкую—у сонцы і сьпякоце—краіну.

— Дазвольце мне,—пачуўся голас з натоўпу.

— Калі ласка,—адказаў Паркан.

На ўзгорак узышоў Гарбуз Сьцяпан—у ватоўцы, у грубых ботах, заморады. Ён агледзеўся на ўсіх прысутных, спыніў погляд на Шаганаве, які гутарыў з групаю рабочых, кашлянуў і, успомніўшы пра сёнешнюю ноч—зусім ня ўдарную, растроеную, як старая рояль у заводзкім клюбе, запытаў ва ўсіх рабочых:

— Хлопцы, што мы робім? да чаго мы дойдзем? што нам скажуць рабочыя Першамайскай гуты?

— Куды мы йдзем, куды мы заварачваем?!—засьмяяўся нехта.

— Вось табе, Заяц, хі-хі-хі ды ха-ха-ха,—узлаваўся Сьцяпан, вачыма ловячы Зайца—гуляку з гуляк, запявалу на ўсю акругу.—Ты сам сябе прахіхікаеш і другіх яшчэ саб'еш з дарогі. Табе нішто ўсе рабочыя, ты сам для сябе жывеш. Дрэнна накормяць у сталоўцы—ты бузу ўзьнімаеш, на работу ня ідзеш. Ня хопіць папярос у коопэратыве—п'янствуеш усю ноч ды яшчэ хаты на дарозе скідаеш. Шкодны ты чалавек.

— А што я—за твае? Шкода табе?

— А за чые-ж ты думаў?—разьвёў рукамі Сьцяпан.—Ты ня ідзеш на работу,—значыць наша гута менш выпрацуе продукцыі. Менш будзе продукцыі—будзе недавыкананы прамфінплян. А раз так, значыць мы скатваемся да прарыву.. А прарыў на нашым заводзе—падрыў усей гаспадаркі. Вось табе, Заяц, што значыць твой прагул, тваё п'янства. Калі ты і надалей будзеш так рабіць, дык не рабочым будзеш, а паразытам. Гэта ня толькі я гавару, гэта скажуць табе ўсе рабочыя, правільна я гавару?

— Правільна, Сьцяпан!—падтрымалі рабочыя.

— Кожнаму зразумела.

— Калі ўсе пачнуць прагулы рабіць ды п'янстваваць, што-ж тады будзе?

— А што—рвацтвам займацца, як вы?—зласьліва пакрывіўшы твар, закрычаў Заяц.—Гнаць бутэльку за бутэлькай загадаеце, каб яны рассыпаліся на другі дзень? Грошыкі зашыбаць прымусіце? Няхай згараць грошы, ды і той, хто іх выдумаў!

Зноў рабочыя захваляваліся, закрычалі. Сьцяпан стаяў з разьведзенымі рукамі, ня ведаючы, што рабіць. Калакалуха нешта горача растлумачваў Перапечку і Макару Сінькову—таксама рабочаму з яго брыгады. Заяц, б'ючы сябе ў грудзі, напружваў усе сілы, каб перакрычаць другіх; на яго чырвоным карку сіняю крывёю набухалі жылы і з рота пырскала сьліна.

З натоўпу вынырнуў Шаганаў і голасна папрасіў супакоіцца.

— Мы-ж так ня скончым сход да полудню... Трэба цішэй, таварышы... Дайце выказацца Сьцяпану. Ды і жанчыны няхай скажуць што-небудзь, а то быццам іх няма: маўчаць, што ў рот вады набраўшы.

Некалькі жанчын, якіх да гэтага часу ніхто не заўважаў, заварушыліся і загаманілі. Пёкла Сазонава, прыбіральшчыца на гуце, сьмяючыся і паглядаючы на сваіх таварышак, сказала:

— Ды мы калі выступім, дык і вам моташна стане... мы справу скажам...

— Во, во,—падтрымаў Шаганаў,—менш слоў, больш справы.

— Яна скажа пра бабскія справы,—зарагатаў нехта з натоўпу.

— ...і як да яе хадзіў Кастусь Кавалёнак...,—дадаў другі голас.

— А вам што да гэтага?—накінулася Пёкла.—Калі вы ласы да баб, дык, думаеце, і мы такія?

— Ды цішай, таварышы, — перабіў яе Шаганаў,—нельга-ж так...

— Хлопцы,—не сьцярпеў і Сьцяпан,—нас біць трэба, а мы на хаханьках выяжджаем... Мі-ж ня дзеці, урэшце, не блазьнюкі...

— Ну, і што ты прапануеш?

— Я прапаную гуту абвясьціць ударнай, наладзіць вытворчыя манэўры, працаваць усім, як належыць. І яшчэ прапаную: над прагульшчыкамі, хуліганамі і п'яніцамі наладзіць грамадзкі суд.

— Я падтрымліваю рукамі і нагамі!—закрычаў Калакалуха аскаліўшы ў вясёлай усьмешцы смуглыя, працятыя нікотынам зубы.

— Дайце мне слова,—папрасіла Пёкла, і ўсе глянулі на яе. Ня выходзячы з натоўпу яна пачала, зьбіваючыся і пераблытваючы словы, чырванеючы і саромячыся, пачала ні то гаварыць, ні то чытаць з паперкі:—Мая справа будзе такая, каб тут пастанавіць не пазьніцца на работу. А то, вось, учора спазьнілася Аксіньня, спазьніліся і Тодар з Пілілам. Гэта тыя, якіх я бачыла. Спазьняюцца-ж у нас, самі ведаеце, вельмі многія. І яшчэ трэба пастанавіць, каб не рабіць прагулаў. А калі хто ня прышоў на работу—давай даведку. Ці ты хварэў, ці ты нагу зламаў, ці ты проста п'янстваваў... Таксама трэба акуратна сачыць за работай і не рабіць браку. І яшчэ ў нас вельмі шмат гутараць з майстрамі і рабочымі, кураць у час работы. Ёсьць і такія, якія... Ну, вось, як гэта завуць... якія ашукваюць дактароў, корчаць з сябе хворых.

— Сымулянты!—падказаў нехта з рабочых.

— Вось, вось, гэтыя самыя сымулянты... Іх трэба за вуха падцягнуць бліжэй да ваннай печы ды разгледзіць, на што яны хварэюць. Канечне, тут нам доктар павінен дапамагчы. Ну, і яшчэ трэба пастанавіць, каб акуратна наведваць усе школы, заняткі на рабфаку і агульныя сходы. А то што-ж гэта такое?

Сход склікаецца—чакай дзьве гадзіны, пакуль усе зьбяруцца, а то і зусім ня прыдуць; заняткі на рабфаку—той спозьніцца, той зусім ня прыдзе, а гэта адбіваецца на вучобе, перашкаджае вучыцца астатнім. Вось і ўсё, што я хацела сказаць. Гаварыце цяпер самі.

— Самі з вусамі, а вось ты пахваліся чым-небудзь,—усьміхнуўся, глецзячы на Пёклу, малады хлапец.

— Хто-б хваліўся, а ты маўчаў-бы, што ў рот вады набраўшы,-адказала яму Надзя, таварышка Пёклы.

— А ты бачыла?—з такой-жа ўсьмешкай запытаў хлапец.

— Ёсьць на што глядзець... Ты-ж шчанё яшчэ, блазьнюк маткін.

— Я маткін, а ты што?... сучкіна?..

Далей спрачацца нельга было,—са ўзгорку гаварыў стары рабочы—у акулярах, з вялікай барадой, сутулы. Пёкла ўшчыпнула сваю таварышку, сказала:—„кінь, а то лаяцца пачнеш!"—і тая не адказала маладому хлапцу, чыя яна і хто яна. А сказаць яна мела што, і даўно зьбіралася сказаць гэтаму хлапцу — Гаваронку Дзянісу — рабочаму тэй-жа зьмены, на якой працавала сама.




**На маскоўскіх прадпрыемствах. Ганьбуюць прагульшчыкаў, для якіх адведзены асобныя касы.**

Але Гаваронак Дзяніс—зусім не хлапец, зусім не блазьнюк; ён жанаты чалавек, нават бацька; Праксэда, яго жонка, напэўна прыгатавала сьнеданьне і з нецярплівасьцю чакае мужа, забаўляючы двухгадовага Кіма і думаючы-гадаючы: што магло стацца? чаму позьніцца? Прайшла ўжо цэлая паўгадзіна... „Гаваронак Дзяніс-вытрыманы рабочы, пра яго ніхто худога слова сказаць ня можа. На рабоце ён акуратны і шпаркі, на чорнай дошцы ніколі ня быў, прагулаў ня робіць, ня п'янствуе, не хуліганіць, з жонкаю жыве ў ладу і згодзе,—ну, што яшчэ?—вучыцца на рабфаку, хоча быць чырвоным інжынэрам (дваццаць чатыры гады мае толькі,—часу наперадзе—горы вышэй хмар, глянеш у будучым—галава кружыцца ад ахвоты жыць).

Так. Гаваронак Дзяніс—зусім не хлапец, ён сталы мужчына, але-ж якая зачына ў гэтым? Калі прышла Надзя на гуту—з далёкіх з губленых у бяскрайніх балотах і пушчах, абвітых малачавымі туманамі палёў (хілкае жыта ня клоніць каласоў да долу, стаіць выпрастаным, быццам на корані абмалочаным, і маці, гледзячы на сваю палоску, раняе сьлёзы на зямлю:—як жа нам жыць, як век векаваць? Ані коніка ў маёй пунячцы, ані бацькі ў маіх дзетачак... Нашто-ж ты памёр, мой Нікіпарка, на каго-ж ты нас пакінуў, мой родненькі?..)—прышла на гуту, пачала працаваць, і першы ёй кінуўся ў вочы Дзяніс Гаваронак—малады хлапец, з радаснымі вачыма, вясёлы.

Ну, дык і што з таго, калі ён мужчына, калі ён бацька? Пёкла нешта раз, ідучы на сход, гаварыла Надзі:

— Як я ты дзіўная, быццам трынаццацігадовая дзяўчынка... Ты гаворыш, што ніколі-б ня ішла за мужчыну. А я наадварот... Хлопцы што: куды вецер—туды яны... Спадабаецца дзяўчына, ну і накінуцца на яе... Маладыя напралом ідуць у жыцьцё... Ну, і памыляюцца. Падружаць троху з дзяўчынай, кідаюць яе, з другой пачынаюць. А там, глядзі, трэцюю знойдуць, чацьвертую. А жэняцца думаеш як? Выпадкова, ніякай падрыхтоўкі да гэтага... А пасьля за галовы хапаюцца, б'юць сябе ў грудзі: „што я нара іў, куды я зайшоў"... Ну, канечна, там і да разводу блізка. Вось тады ўжо перараджаецца чалавек, вобмацкам пачынае жыць, і калі жэніцца, то ня з бухты-барахты, а падумаўшы. І жыве ён тады з другой жонкай як голуб з галубкай...

— Хіба-ж гэта праўда?—запытвала Надзя.

— Я-ж табе кажу,—адказвала Пёкла.

— Ты з сябе бярэш прыклад?

— А што, не?—сьмяялася Пёкла і чырванела, успамінаючы Кастуся Кавалёнка.—Толькі са мной так ня будзе, Кастусь зьвернецца. Вось адчуваю, галаву мне адсячэце, а зьвернецца. Пакруціцца з аднэй стараны ў другую, ды і прыедзе на сваю гуту.

Ва ўяўленьні Надзі паўставаў тады Кастусь Кавалёнак—высокі, з шырокімі плячыма, з добрай усьмешкай на твары—і яго дружба з Пёклай—незразумелая для Насты, чужая дружба. Жыла Пёкла з Кастусём два гады—дружылі, кожны вечар сустракаліся, і думалася, што гэта дружба перарасла ў нешта вечнае, усягдашняе; але ўсё абарвалася, загінула, засталася Пёкла сама з сабой. А здарылася гэта ростань так: напярэдадні чырвонага вясельля, калі ўсё было абгаворана і падрыхтавана, і маладыя—Пёкла з Кастусём—хадзілі ў радасьці і весялосьці, Кастусь зьнік, пакінуўшы для Пёклы кароценькі ліст. „Не сярдуй, але інакш не магло быць. Я еду, сам ня ведаючы куды. Я хацеў для цябе толькі лепшага. Бывай".

Успаміная так Надзя, запамятаўшы на сход. Выступалі рабочыя, адзін за адным чалавек пяць, але яна ня чула іхных слоў, уся была ва ўспамінах. І толькі тады, калі старшыня заўкому Паркан Астап голасна запытаў: „хто за"?—Надзя ўстрапянулася і разам са ўсімі ўзьняла руку.

— За што-ж галасуюць?—запытала у Пёклы, трымаючы ўзьнятай руку.

— Каб зьменшыць расцэнкі зарплаты — адказала тая.—Ды хіба ты ня чула?

Рука Надзі дрыганула і пачала апушчацца.

— Што ты? што ты?—засароміла Пёкла таварышку:—Што ты думаеш?

— Як-жа гэта зьмяншэньне?

— Пасьля раскажу, а цяпер узьнімай руку,—адказвала Пёкла,—Надумалася апушчаць...

— Я-ж нічога...

— Маўчы, маўчы ўжо,—зараз сход скончыцца.

І сапраўды, Паркан, прагаласаваўшы новыя дадаткі да ўмовы на соцыялістычнае спаборніцтва паміж варштатамі, брыгадамі і зьменамі, абвясьціў сход зачыненым (хоць і быў ён пад адкрытым небам)... абочыя шумна, гамонячы і спрачаючыся, адзін за адным пачалі разыходзіцца па дамох.

Пёкла, гаворачы пра зьмяншэньне расцэнак, хацела толькі запужаць Надзю,—на самай справе ніякага зьмяншэньня ня было.





За аўладаньне вайсковай тэхнікай.



**ЛЕСАСПЛАЎ. ФОТО-ЭЦЮД.**

# РЫСЫ ІМПЭРЫІ.

**НАРЫС Б. КЛІМЧУКА.**

ЧАТЫРНАЦЦАЦЬ год таму назад. Рабочыя і салдаты Расіі адным магутным рэволюцыйным парывам зьнесьлі абшарніцка-прыгоньніцкае самаўладзьдзе. Англа-францускія імпэрыялісты. Гучковы і Мілюковы, Радзянка і Керэнскія рыхтавалі дварцовы пераварот супроць Мікалая Раманава ў імя працягу імпэрыялістычнай вайны і зусім не чакалі рэволюцыі, якая ўдарыла ня толькі па царскай Расіі, але і па ўсім міжнародным імпэрыялізьме. Стары царскі рэжым прагніў зьверху да нізу і варта было зьявіцца на вуліцах тагачаснага Петраграду некалькім атрадам узброеных рабочых, разам з салдатамі, якія далучыліся да рэволюцыі, як лёс імпэры быў вырашаны. Царскі трон ня мог у лютаўскія дні 1917 году выставіць хоць некалькі тысяч салдат для разгону паўстаўшых фабрык і заводаў. Ужо ў першы дзень петраградзкіх хваляваньняў ваеннае камандваньне вымушана было адзначыць, што войска бяз усякай ахвоты разганяе натоўпы паўстаўшых рабочых.

Створаны пасьля лютаўскага перавароту Часовы ўрад, вылучыў камісію для расьсьледваньня злачыннай дзейнасьці царскіх чыноўнікаў. Стэнографічныя справаздачы пасяджэньняў гэтае камісіі даюць нам багатыя матэрыялы, якія характарызуюць дзеячоў царскага рэжыму.

Вось Штурмэр. Старшыня савету міністраў, ён-жа міністр унутраных спраў, ён-жа міністр замежных спраў, ён-жа дыктатар царскага ўраду. Ён даваў многаслоўныя паказаньні, але апошнія літаральна зьдзіўляюць поўнай адсутнасьцю якой-небудзь дзяржаўнай мысьлі ў гэтага столькі адказнага чыноўніка. Магчыма, што палохаючыся кары рэволюцыі, ён на допытах імкнуўся павялічыць сваю прыродную тупасьць, але ўсёроўна адразу відаць усю яго абмежаванасьць і нікчэмнасьць.

Пытаецца старшыня камісіі:—Якая была ваша програма, як міністра ўнутраных спраў.

Штурмэр:—Як вам сказаць?.. Програма... магу сказаць програму, якую я склаў, пакінуў.. я быў чатыры месяцы міністрам унутраных спраў: пакуль былі бягучыя справы...

Старшыня:—Выбачайце: я пытаюся не аб тым, якая програма была вамі пасьля складзена, а што паставілі вы на чале вашае програмы, якую вы падалі цару, калі былі прызначаны за міністра ўнутраных спраў?

Штурмэр:—Мне вельмі цяжка ўспомніць, што іменна... Адно вынікала з другога...

Старшыня:—Ну хоць-бы што-небудзь адно, з чаго вынікала другое...

Штурмэр.—Прашу верыць, што гавару шчыра... я лічыў, што трэба захаваць тое становішча, якое было,—старацца бяз сутычак, бяз спрэчак падтрымліваць тое, што ёсьць... А заўтра відаць будзе, што далей будзе.

Праз 10 дзен Штурмэр зноў дае паказаньні перад камісіяй. За гэты час зразумеў ён усю тупасьць сваіх адказаў. Ён лічыў патрэбным зноў закрануць пытаньні програмы.

Штурмэр:—Вы мне задавалі пытаньне адносна програмы: „Ці мелі вы якую-небудзь програму, з якой програмай вы выступілі". Пытаньне, здаецца, гэтак было пастаўлена. Дазвольце адказаць наступнае. Калі я прадумаў вашае пытаньне—я сабе ўявіў, што гэта-ж не ў Заходняй Эўропе, не ў констытуцыйнай дзяржаве, дзе са зьменай дзяржаўнага кіраўніцтва ва ўсе ўстановы палаты спачатку прасякаюць грамадзкія мысьлі, дзе ўрад, якому спачуваюць—падтрымліваюць, не спачуваюць—не падтрымліваюць. Урэшце, ёсьць групы, якія маюць пэўную сваю програму. Калі монарх выклікае новых асоб да кіраўніцтва, дык. зразумела, няма програмы.

Старшыня.—Вы хочаце сказаць, што ў нас, дзякуй божа, ня было констытуцыі?

# У МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ БАРАЦЬБЫ З БЕСПРАЦОЎЕМ.







У той ча... ...лібур-
жуазія с... ...раецца
стварыць ...я сябе
жыцьцё ...ачным,
калі яна ...адае ў
гэтае ж... ...це ня-
зьлічоны... ...агацці,
мільёны ...працоў-
ных у ...апіталі-
стычнаг ...вету вы-
кінуты ...вуліцу.
Беспр... ...ўе ўсё
больш... ...авяліч-
ваецца... апошні
час а... ...ся цэлы
шэраг ...монстра-
цый с... ...ць бес-
працоў...

У за... 25 лю-
тага — ...народны
дзень ...ацьбы з
беспра...м—рабо-
чыя ў ... капіта-
лістыч... сьвету,
ня гле...ы на са-
мыя ж...кія зьбі-
ваньні ...шты, дэ-
монстр... сваю
солідар...ць у га-
тоўна... канца
змагацца упроць
прыгн...льнікаў.

Рэв...цыйная
актыўн...ь рабо-
чых ус... сьвету бе-
сьпер...на рась-
це. Дэ...працы ў
Міжн...ы дзень
бараць... беспра-
цоўем ...вілі ўсё
ўзрас... ўплыў
камун...най пар-
тыі і р...цыйных
праф...ў.

**На ...ках.**

*Зьле...* ўверсе:
Дэманс...цыя на
вуліцах ...ны. Ко-
лёна ...даўнічых
рабочы...

*Зьле...* ўнізе:
Высту...ньне ў
Міжнар... дзень
барацьбы ... з беспра-
цоўем са...тара ар-
ганізацы... Міжраб-
пома та... Шор у
Вене.

*Спра...* ўверсе:
Паліцыя ...разганяе
бесп...ых дэ-
мон...таў на
адной з ...уліц Бэр-
ліну.

*Спр...* ўнізе:
Падару... папе Пію
XI, на... мэтаю ан-
тысавец... выступ-
леньня ...прадстаў-
нікі пра...словасьці
падарыл... яму за
яго ага...ую дзей-
насьць ...аўтомобіль.
Папа ... белым
адзеньн... перад па-
гулянка... ў новым
аўтомоб...







Агульны выгляд падсудных контррэволюцыянэраў-меншавікоў. Наперадзе абаронцы Браудэ і Коммодаў.

# НАПОМНІМ

НАРЫС
С. БЭРНАРА.

УСЕ турмы перапоўнены арыштаванымі рабочымі. Турмы ня могуць увабраць у сябе ўсіх арыштаваных. Пад вастрогі прыстасавачы прыватныя дамы. Па ўсім горадзе ходзяць узброеныя атрады. З 11 гадзін увечары па вуліцах хадзіць ня можна. На кожным скрыжаваньні вуліц стаяць патрулі саюзьнікаў, расійскіх каманд і навабранцаў. Агенты ахранкі і ўдзень і ўначы ходзяць па вуліцах, швэндуюцца па ўстановах, заводах, ваенных камандах. У кожным квартале створаны свае штабы шпікаў, якія сочаць за жыцьцём кожнага дому, кожнае кватэры. Уначы чутны стрэлы, залпы. Гэта расстрэльваюць рэволюцыйных рабочых. Часам у ночнай цішы чуцен водгук патруля: „Стой!" „Стой!"—а праз некалькі хвілін чуцен стрэл, які даганяе ўцекача.

Гэта.. малюнак жыцьця Архангельску з часоў ангельскай окупацыі і эсэраўска-меншавіцкага панаваньня.

... Усім жыцьцём гораду распараджаецца ангельскі генэрал Мюльлер. Офіцыяльна—„урад поўначы Расіі" складаецца з меншавікоў і эсэраў. Але, якая цана гэтаму ўраду, які ліжа боты окупантам і ўсё глядзіць у вочы „шаноўнаму" генэралу,—ці, „барані божа", чым-небудзь не пакрыўдзілі яго.

Урад загадвае: „усякі, хто чым-небудзь зьняважыць гонар і добрае імя саюзьнікаў, будзе арыштаваны і аштрафаваны на 5.000 залатых рублёў".

Белы тэрор рабіў сваю справу. Па ўсім краі дрыжэлі ад жаху, пры адным успаміне пра астравы Мудзюк і Ёканге, якія зваліся „астравамі сьмерці". Сюды зганялі разам з эсэрамі і меншавікамі ангельцы арыштаваных, рабочых якія сотнямі паміралі тут ад голаду і холаду. Калі маці, бывала, хацела супакоіць дзіцё, яна гаварыла: „ня плач, дзіцё, пачуюць белыя, зьвязуць у Мудзюк".

Дык вось у меншавіцкай газэце „Северный луч" у гэты жудасны час чорнай рэакцыі мы чытаем артыкул за подпісам „Стары соцыял-дэмократ":

„Сярод офіцыяльных прывітаньняў і ўдзячных віншаваньняў з прычыны доўгачаканага дэсанту нашых саюзьнікаў мне хацелася-б адзначыць, за што мы павінны быць асабліва ўдзячны нашым саюзьнікам. Яны ўводзяць у нас **свой** парадак, запрашаюць нас добраахвотна ўступіць у **сваю** армію, даюць нам **свайго** комэнданта і, калі мы захочам, завядуць у нас наогул свае парадкі".

Вось вам нічым ня прыкрыты твар міжнароднага меншавізму, які пеў дыфірамбы тым, хто вылучаў „астравы сьмерці" для рэволюцыйных рабочых. А калі рабочыя запатрабавалі скасаваць сьмяротныя прысуды да некаторых таварышоў, „соцыяліст" Чайкоўскі, які стаяў на чале Паўночнага ўраду, адказаў ім:

„Сьмяротныя прысуды зацьвярджаюцца камандуючым войскам і скасаваць іх я ня маю ніякага права. А калі-б гэта залежала ад мяне, дык мая рука не задрыжала-б падпісаць сьмяротны прысуд здраднікам бацькаўшчыны".

* * *

Чатырнаццаць здраднікаў, чатырнаццаць агентаў соцыял-інтэрвэнцыяніцкага балота, якое завецца II Інтэрнацыяналам, з усімі дэталямі расказвалі ў працягу цэлае дэкады пролетарскаму суду, як так званыя „соцыялісты" з „усесаюзнага бюро РСДРП меншавікоў" рыхтавалі крывавую лазьню працоўным масам першае краіны пролетарскай дыктатуры.

II Інтэрнацыянал становіцца ў авангардзе самае чорнае рэакцыі—цьвёрдалобых консэрватараў,—якія рыхтуюць новую інтэрвэнцыю супроць СССР.

Яшчэ за шмат год наперад опортуністы з II Інтэрнацыяналу вызначылі свой шлях і свае адносіны да соцыялістычнай рэволюцыі і зусім адкрыта перайшлі ў лягер абаронцаў буржуазі і капіталістычнага ладу ад рэволюцыйнага пролетарыяту. Варта было аднаму Карлу Лібкнэхту выступіць супроць сусьветнае вайны, каб увесь соцыял-дэмократычны друк пачаў шалёнае цкаваньне гэтага сапраўднага прадстаўніка пролетарыяту. А калі за Лібкнэхтам і Розай Люксэмбург пайшлі дзесяткі тысяч рабочых, нямецкая соцыял-дэмократыя перайшла ад цкаваньня да простага хаўрусу і разам з монархічнымі афіцэрамі здрадніцкі забіла правадыроў рэволюцыйнага нямецкага пролетарыяту.



**Замежныя карэспандэнты на працэсе контррэвалюцыйнай арганізацыі меншавікоў.**

# КОШКА

**Нарыс**
**МАКСА ІКЭДАНС**

Асоцыяцыі да гэтага часу—адна з цёмных галін псыхолёгіі. Узьнікненьне асоцыяцыі дэтэрмінавана якімісь надзвычайна вузкасуб'ектыўнымі перажываньнямі і момантамі мінулага бытаваньня данага суб'екту.

Адзін, напрыклад, убачыўшы Пуанкарэ, успамінае, як яго сусед па траншэі пад Вэрдэнам, якому сарвала асколкам чарапную пакрышку, ткнуўся ў зямлю агрызкам галавы, і скарожанымі пальцамі няпрытомна выцягваў ружовыя ніткі мазгоў.

А другі ў той-жа час можа прыгадаць гірлянды кветак, залацістыя чаркі шампанскага, прамовы і банкет у гонар вэрсальскага міру.

Трэцяму можа ўспомніцца ноч і бандыцкі рабунак на вялікай дарозе... Але гэта ня важна... . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі я ўглядаюся ў твар соцыял-дэмократычнай партыі, дык кожны соцыял-дэмократ і ўся партыя ў цэлым нагадвае мне чамусь,—кошку. І гэта заўседы.

Сеўшы сьнедаць, я адчуваю праз хвіліну, як кошка пачынае церціся між ножак крэсла, лёганька дакранаецца да мяне, абнюхвае боты і мяўкае ціха, лісліва і жаласьліва:

мяў... мяў... мяў...

Тады я пачынаю думаць, што я Ротшыльд або Рокфэлер. Я бяру кавалачак стравы і трымаю яго над сталом;

— нельга апісаць з якой удзячнасьцю глядзяць на мяне соцыял-каціныя вочкі. Які зялёненькі хціві агеньчык блішчыць праз касыя разрэзы век;

— уся скурка нацягваецца, і кожная костачка шкілету паасобна цягнецца да аб'едку.

З мяккіх лапак высоўваюцца маленькія вострыя кіпцюркі, хвосьцік торгаецца ліхаманкай, вушкі ходзяць, ня ведаючы,— сесьці ці легчы, і з горла, прасякнутага жаданьнем, паўзе вымагальна-назольлівае, жабрацка-меншавіцкае:

дай... дай... дай...

Я нясу недаедак у паветры над кошкай, на хвілінку затрымліваю руку,

— у гэты момант яна хацела сказаць яшчэ раз „дай“, але „д“ застроміла ў глотцы залітае сьлінай, з вочак паліліся вадкія сьлёзы, і кошка асьцярожненька працягвае лапку.

Тут я кладу кавалачак сабе ў рот.

Варта зірнуць на кошачку! Яна, як „Форвертс“, сіпіць і поўзае брушкам па падлозе. Сьлінка на вуснах пеніцца. Хвосьцік (Каўцкі?) гнеўна сячэ паветра і ў чорных зрачкох, атуленых бельлю, палымеюць чырвоныя сьвечкі,—трохколерным сьцягам нямецкай рэспублікі.

Калі-ж мой капіталістычны аб'едак падае на зямлю,—дзесяць кіпцяў адразу ўядаюцца ў яго і праз вострыя зубы, забітыя стравай, кошка грозна заяўляе правы ўласнасьці, аднолькавае ва ўсіх умовах.

Яна рычыць па-лацінску „мэа“, па-француску „муа“, па-нямецку „майн“ і па-кацінаму, неяк:

моўн... моўн... моўн...

У гэты час я люблю наступіць ёй на хвост;

— страва ляціць па падлозе кошка круціцца вінтам, і паветра прарэзвае жудасны вый:

мя-я-я-у-у-уу...

З кухні пад грукат талерак ляціць пераляканая гросмутэр-бабуля і крычыць мне з дакорам: „Макс, завошта ты мучаеш боскае стварэньне“. Але я адказваю, што гэта ня я, а пан Ротшыльд, і гросмутэр, нічога не разумеючы, дакорліва ківае галавой і выходзіць усьлед за вылецеўшай ветрам кошкай...

Мне здаецца, калі-б запытацца маю кошку пра мяне, ці соцыял-дэмократычную партыю пра яе гаспадароў, яны-б апісвалі так:

— перш за ўсё кошка аблізнула-б рот і скурку, а соцыял дэмократ пачысьціў-бы пыл з каленкаў, сказаў:

„О!..“ і застыў у нямым захапленьні.

„... мяганькая, з беленькімі жылачкамі, падошва майго гаспадара зроблена з найлепшага ў сьвеце каўчуку. Яна прымацавана да галовак драцьвіначкай і дурэнна-прыгожа пахне. Перны пах колёніяльнага поту і нэгрыцянскіх гушчараў таемнага Конго п'яна калышыцца ад гэтых адзіных у сьвеце падошваў.

Галоўкі, сшытыя ў тры радкі індэйскім шоўкам—мяккія і элястычныя, як скурка дзіцяці, расьцягнутая на капыл.

Калі датыкаешся да іх кончыкам носу, і потым—губамі,—адчуваньне такое, як быццам намесьнік хрыста дакранаецца да вуснаў сьвянцоным елеем, праліваючы мір і лагоднасьць у соцыял-набалелую душу;

— або, як нячутны, пяшчотнейшы пах льюізіту, як веяньне крыльляў ангела міру ў Жэневе, калі чуеш прамову Брыяна.

— але гэта ня зусім дадзена адчуваць

Нават Вандэрвель...

— Далей ідуць наскі. О, гэта...“

Больш соцыял-дэмократ ня ў сілах. Захапленьне, узьнеслась, зьдзіўленьне выцягваюць яго ў струнку. Ён пнецца, прагнецца зглынуць усхваляванае „О“, ён увесь націнаецца, але „О“, як пятля, захлісну ла за горла, і зьнясілены, ён апускаецца і зморшчваецца, ня вольны падняцца вышэй за насок свайго гаспадара...

Але я ведаю і іншую кошку. Аднойчы, пасьля рурскіх баёў, мяне паклікалі на абсьледваньне сутарэньня суседняга дому, дзе быў знойдзены труп пролетара.

Усё было, як звычайна. Цёмная вузкая лесьнічка прывяла пад скляпеньні падвалу. З нізкай столі капала плесень і вада вырастала са сьцен. З адчыненых дзьвярэй панесла смуродам і цемрай. Занудзіла. Склеп нагадваў катавальню. Уражаньне дапаўнялася тым, што на падлозе ў азёрку крыві раскінаўся труп.



Пом. Прокурора рэспублікі т. Рагінскі на процэсе.

На прабітай багнетам грудзі сядзела кошка.

— Яна не зварухнулася, калі мы ўвайшлі і толькі пагражаючы зарычала, ушчаміўшыся ў здабычу, і аблізнула вусы.

Вымазаная крывёю морда злосна шчырыла жоўтыя іклы. Кіпцюры злосна рвалі скуру з грудзей, шэрсьць стаяла шчацінай і перапоўненая мясам і брудам горла хрыпела якіясь агідныя словы.

Я прыслухаўся і здрыгануўся.

Мне пачулася... Я ясна чуў... Гэта слова... імя...

. . . „Носкэ“ . . .

Крывавы сабака—Носкэ!

Я ўспомніў Вену, Гамбург... А ідучы дамоў я душыўся ярасьцю і шаптаў: Лібкнехт... Роза...

І сёньня, прачытаўшы газэту пра Лейпцыг і Маскву, я зноў поўны ярасьці. Як бачу, як рушаць па бруку рабочыя колёны насустрач жандарскім багнэтам. Я чую каманду:

— Па загадзе соцыял-паліцыянта пана Цэргібеля,

— Паліцэй-дэмократы,

— к у с і!

І соцыял-жандармэрыя страляла ў твар. Скавытала ў твар пролетараў валавянай сьцінай і сычэла дыханьнем атрутнага газу.

„ХОЙДЛІХ—мэталіст—24 гады,

— стрэлам у жывот!

ХЭРТЭЛЬФ—чорнарабочы—24 гады,

— стрэлам у галаву!

БУКЭР—рабочы гуты—,

— стрэлам у рот!

ЛЮДВІГ—будаўнік—25 год,

— стрэлам у сьпіну!..“

Соцыял-фашыцкая кошка зноў нашкодзіла. Трупны сумрод плыве ад кіпцяў:

— Вандэрвельдэ, Громан, Суханаў..

— ЦК РСДРП меншавікоў.

— Інтэрвэнцыя, шкодніцтва, здрада;

— кроў рабочых і сялян СССР.

Пачынаюцца прадсьмяротныя сударгі, кошку корчыць і кідае, яна прадчувае ўжо, што вяртаецца ў дом гаспадара.

— Соцыял-жывёліна мітусіцца. Соцыял інтэрвэнцыянал віляе хвастом, замятаючы здрадніцкі сьлед.

— Лапкамі ў белых пальчатках заграбае сьмярдзячую кучу—подласьцяй, здрад і агіды.

Позна...

Гаспадар ідзе. Сьцены дрыгочуць ад крокаў і сыплецца кошкіна шэрсьць. Кошка трусьліва сыкае злосьцю і жахам.

Ідзе гаспадар. Сапраўдны гаспадар гаспадароў. Уладар уладык. Пан сьвету!..

Гулка гучаць па зямлі дрыготныя крокі:

... рот фронт...

рот фронт... рот фронт...

Дрыжы, ашалеўшая гадзіна, сіпі і сыкай. Выйсьця няма. Час да расплаты.

Мяўкай!..

Соцыял-дэмокрацкая вонь значыць твой сьлед.

Вый!..

Час прышоў. Гаспадар—на парозе. Гэта—канец і расплата...

Гэта,—

— жалезнай рукой за хвост,

— за заднія лапы,

— галавой аб сьценку—

— і за дзьверы!..

— Па сьмярдзючым трупе пройдуць мільёны мільёнаў ног, і не пакінуць нічога. Ніводнай шарсьцінкі. Ніводнага соцыял-мікробу.

Толькі рэха, абмытае ў чырвань крыві, будзе гучэць і гучэць па-над сьветам:

Рот фронт!.. Рот фронт!..

І пярунамі грымецьме:

Пролетарыэр алер лэндэр...

Пролетары ўсіх краёў...

— з л у ч ы л і с я!




Сьцяг комунараў.

# У ДНІ КОМУНЫ

Шэсьцьдзесят год таму назад. У Парыжы абвешчана Комуна. Вэрсальцы бязупынна абстрэльваюць парыскія кварталы. Удзень і ўначы грукаюць гарматы. Парыскія рабочыя на барыкадах. Невядома яшчэ: падтрымае астатняя Францыя Парыскую Комуну, ці не.

А на вуліцы Круасан, у друкарні Валлэ набіраюцца дзьве газэты Комуны—„П'ер Дзюшэн" і „Соцыяльная рэволюцыя". Тут лепшыя наборшчыкі Парыжу. Усё лепшае, што мелі друкары, яны паслалі сюды, каб газэты Комуны маглі гучэць набатам і арганізоўваць новыя батальёны змагароў на сьценах Парыжу з наступаючым рэакцыйным Вэрсалем, дзе схавалася буржуазія, якой Комуна дала мажлівасьць свабодна пакінуць горад, ахоплены полымем паўстаньня.

Але ці можна пакінуць столькі народу ў друкарні? Ці не патрэбны яны на фронце, там, дзе рашаецца лёс Комуны? Вось гляньце на друкароў. Усе яны ў мундзірах. Але гляньце на іх мундзіры. Усе яны аб'яднаны ў адзін батальён. Але ёсьць батальёны, якія нясуць каравульную службу, якія ахоўваюць горад, установы, прадпрыемствы. Іх мундзіры чыстыя, ні ў чым не запэцканыя, яны акуратна атрымоўваюць паёк, гэтак сама, як і пэнсыю. У такіх батальёнах галавой не рызыкуеш.

Ёсьць іншыя батальёны, батальёны, якія змагаюцца. У квартале, дзе яны жывуць, раптам пачынае біць барабан. Трывога. Аднэй рукой людзі хапаюць стрэльбу, другой—патронташ. Ледзь, ледзь пасьпяваюць пацалаваць жонку, дзяцей, з разгорнутым сьцягам хутка сьпяшаюцца да ратушы, каб вітаць Комуну і заняць баявое месца барацьбітоў.

Работнікі з друкарні, што на вуліцы Круасі, належаць да гэтай катэгоры; батальёнаў. Калі мы прыходзім у друкарні, здараецца, што не заўсёды ўбачым адны і тыя-ж твары.

Адсутныя, тыя, якія заменены іншымі, пайшлі—куды? Мажліва яны страляюць з гармат, грукат якіх чутны з фартоў.

— Калі яны вернуцца?

— Праз тыдзень, а можа і пазьней.

Сярод нашых друкароў быў адзін слаўны хлапец, волат з мускулістай шыяй і круглымі спружыністамі цяглiцамі рук. Плечы яго, здавалася, былі створаны для таго, каб аднаму падымаць на сябе цэлую гармату. Кожны раз, увечары, калі „П'ер Дзюшэн" быў адціснуты, ён меў звычай, узяўшы па форме пад кожную пахву, абысьці гэтак усю майстэрню, раней чым пакласьці іх на машыну—старую плоскую машыну,—якіх у нашы дні ў добрай друкарні ўжо ня ўжываюць—гэтак лёгка, быццам гэта ня некалькі пудоў цяжару, а якія-небудзь дзіцячыя лялькі.

З таго часу, як прышоў ён у друкарню, ён рэдка калі ўходзіў на фронт. Не таму, што ўхіляўся ад гэтае рызыкоўнае справы. Не! Ні ў якім разе.

— Ну і паламаю белякам рэбры,—бывала, гаварыў ён.

Аднойчы ўвечары нашага волата за наборнай касай ня было. Прышла яго чарга. Наш батальён пасылаў друкароў на фронт па чарзе. Раніцою волат пайшоў на барыкады вуліцы Пероне ў Нэйі.

Праходзіць тыдзень, дзесяць дзён. Тыя, што пайшлі на барыкады вярнуліся назад у друкарню.

— А волат?

— Волат, грамадзянін?.. Хібы вы ня ведаеце?.. Ён ужо ў Божонэ...

— Паранены?

— Забіты... яго заўтра хаваюць... Учора за дзьве гадзіны да таго, як мы павінны былі ўходзіць, ён атрымаў асколак набоя ў жывот...

* * *

Парыскую Комуну перамаглі. Працоўныя ня былі да яе падрыхтаваны. Сувязі з шырокімі масамі сялянства ня было. Але гэтая бліскучая барацьба парыскіх комунараў, доўга, доўга, вучыла і вучыць з якім героізмам павінен пролетарыят змагацца за сваё вызваленьне.

Барыкады былі заліты крывёй, але чырвоныя сьцягі разгортваліся. За гэтыя чырвоныя сьцягі памiралі сотні і тысячы комунараў у часы Комуны і пасьля яе, для таго, каб праз пяцьдзесят год Комуна перамагла пад кіраўніцтвам Леніна пад знакам Сярпа і Молата ў форме Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.



RÉPUBLIQUE FRANÇAISE

№ 39 LIBERTÉ — ÉGALITÉ — FRATERNITÉ № 39

COMMUNE DE PARIS

LA COMMUNE DE PARIS

DÉCRÈTE

LA COMMUNE DE PARIS

Заклік камітэта комуны да комунараў.

# ДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЕ САВЕЦКАЙ ГРУЗІІ.



## УЗРАСТАЮЦЬ ГІГАНТЫ ПЯЦІГОДКІ (Грузія).

**НА ЗДЫМКУ:** Агульны выгляд будаўніцтва Рыйёнскай гідраэлектрычнай станцыі.



## ПЛЯН ГОЭЛРО — ПЛЯН БУДАЎНІЦТВА СОЦЫЯЛІЗМУ.

Будаўніцтва Рыйёнгэса адчыняе новую старонку ў разьвіцьці прамысловасьці Грузіі.

**НА ЗДЫМКУ:** Профіль галоўнай пабудовы з левага боку Рыйёна.



## УЗМАЦНІМ ТЭМПЫ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ РУДОЙ.

**НА ЗДЫМКУ:** Момант адвозкі руды на эскокаду.

# НА ХВАЛЯХ КАПІТАЛІСТЫЧНАГА СЬВЕТУ.

(ФАКТЫ, ЯКІЯ НЕ ПАТРАБУЮЦЬ КОМЕНТАРЫЯЎ).



**Новае вынаходніцтва Раймонда Фідлінс. Фідлінс (Нямеччына) вынайшоў лямпу, пры дапамозе якой можна спыняць усе цягнікі.**

У Англіі, у буйным тэкстыльным цэнтры Лянкашыры ў Грэт-Хармудзе 70 проц. насельніцтва ня маюць работы; у гарадох Падзіхаме, Мосьлі, Плегборне—50 проц.; у вугальным цэнтры Сонінандзі—71 проц., у Оклэндзе—62 проц.

Тыднёвы пражыцьцёвы мінімум ангельскага рабочага з жонкай і трыма дзецьмі складаў у чэрвені мінулага году для Лёндану—67 шылінгаў, для провінцыі 60 шылінгаў і 4½ пэнса. Сярэдні заробак большасьці рабочых складаў усяго—40-50 шылінгаў, сельскагаспадарчых рабочых менш 30 шылінгаў, вуглякопаў—менш 40 шылінгаў.

У Англіі, апрача беспрацоўных, якія атрымліваюць дапамогу, блізка паўтара мільёны беспрацоўных, зусім ніякай дапамогай не карыстаюцца.

Амэрыканскі сэнатар Карауэн заявіў, што ў Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах штодзень памірае ад голаду 1000 чалавек.

З вялізарнай арміі беспрацоўных у Польшчы толькі 104.199 чалавек атрымліваюць мізэрную дапамогу. 226.925 чалавек ніякай дапамогі не атрымліваюць.

Дапамогу, якую беспрацоўныя Польшчы атрымліваюць у дзень, складае 6,4 кап. Спажываньне беспрацоўнымі сабачага мяса—нормальная зьява.

У Германіі ў пачатку 1929 г. ніякай дапамогі не атрымлівалі 15 проц. беспрацоўных, у 1930 г. былі пазбаўлены ўсякае дапамогі ўжо 35 проц. беспрацоўных, а ў 1931—48 проц.

У Германіі па бюджэце на 1931-32 год прадугледжана выплата дапамогі па беспрацоўі на 1.050 тысяч чалавек. Гэта азначае, што каля 3-4 мільёнаў беспрацоўных пакідаецца на галодную сьмерць.

Інспэктар Нью-Ёрскіх больніц—Грыф тлумачыць значны рост псыхічных хворых тым, што рабочыя заўсёды знаходзяцца пад пагрозай беспрацоўя.

У Германіі—каля 2 мільёнаў беспрацоўных работнікаў разумовае працы. За 1930 год беспрацоўе сярод служачых узрасло на 56 проц. Колькасьць беспрацоўных інжынэраў і тэхнікаў узрасла на 75 проц.

Няма дзяржаўнай статыстыкі беспрацоўных у Францыі, няма там і дзяржаўнага страхаваньня ад беспрацоўя.

На 36.000 населеных пунктаў Францыі дапамога беспрацоўным арганізавана толькі ў 111 мясцовасьцях, а з 93 дэпартамэнтаў—толькі ў 3-х.

Вялізарная армія беспрацоўных Вэнгрыі не атрымлівае зусім ніякае дапамогі і разам са сваімі сем'ямі яны пакінуты на галодную сьмерць.

Ад беспрацоўя ў Польшчы пакутуюць ня менш 4 мільёнаў чалавек, г. зн. звыш ⅛ часткі насельніцтва.

Ня менш 3 мільёнаў з агульнай колькасьці 10-мільённага вясковага насельніцтва Польшчы ня могуць знайсьці ніякае працы.

У ФРАНЦЫІ, апрача 350000 беспрацоўных, ёсьць ня менш 1 мільёну часткова беспрацоўных.

У Чэха-Славакіі налічваецца 700.000 беспрацоўных і больш мільёну рабочых, якія працуюць толькі 2—3 дні на тыдзень. Разам з членамі сем'яў каля 4 мільёнаў чалавек, г. зн. каля 30 проц. усяго насельніцтва жывуць, як жабракі.

З 700.000 беспрацоўных Чэха-Славакіі нават дробную дапамогу атрымліваюць толькі 60.000 чалавек.

З мастоў „Златой Прагі“ амаль штодзень кідаюцца ў ваду галодныя і бяздомныя рабочыя і беспрацоўныя. Колькасьць самагубстваў у Чэха-Славакіі ўзрасла да надзвычайных памераў. Канчаюць самагубствам цэлыя сем'і.

У вёсцы Собешовец, Цешынскага раёну (Чэха-Славакія) на вачох у людзей у працягу двух дзён, лежачы на сьцягу, паміраў ад голаду і холаду беспрацоўны батрак з Славакіі.

У Аўстрыі беспрацоўных 550.000. На двух працуючых прыпадае 1 беспрацоўны. Да агульнай колькасьці беспрацоўных трэба дадаць яшчэ вялікую колькасьць працуючых няпоўны тыдзень.

Бюлетэнь Венскага паліцэйскага бюро дае жудасную лічбу самагубстваў за апошні год. Толькі ў Вене скончылі самагубствам 3.065 чалавек.



**Жаночы атрад вайсковай падрыхтоўкі ў Польшчы.**



**Японскія школьнікі праходзяць вайсковае навучаньне пад кіраўніцтвам афіцэра.**

**Выданьне Беларускага Дзярж. Выдавецтва.** **Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.**

# ШАХМАТЫ № 1.

пад рэдакцыяй А. А. КАСЬПЕРСКАГА і Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА.

**Задача № 1.** Г. П. Калугіна (Ленінград).



Белыя: Крb8, Лс8, Лd4, Cf8, Cg4, Кс7, Кf3 (7).

Чорн. Крс6, Фh3, Ла3, Лс3, Са4, Cg1 пп b3, g3 (8).

**Мат у 2 хады.**

**Задача № 2.** Я. Е. Камянецкага (Менск).



Белыя: Крf8, Фа5, Ла4, Лg5, Cg1, Cg8, Кd8, Ке5, пп. с5, d3, d7, Е6 (12).

Чорн.: Крd5, Лf2, Лh7, Ка7, Кс2, пп. с6, f7, g3, g6 (9).

**Мат у 2 хады.**

(Задачы друкуюцца ў першы раз).

Фаміліі разьвязаўшых будуць надрукаваны.

**Да чытачоў:** Прысылайце ў рэдакцыю: партыі, задачы, эцюды, хроніку з месц.

Задачы і эцюды аплачваюцца.

---

У Зэмэрынзе адбываецца матч з 14 партый між гросмайстрам С. Тартаковерам і індусам-чампіёнам Англіі Султан-Ханам.

Становішча матчу на карысьць Султан-Хану з 10 партый: + 3 — 2 = 5.

Партыя № 1 іграна ў Зэмэрынгу ў матчы.

Белыя—Султан-Хан. Чорныя—С. Тартаковер.

1. d2-d4, е7-е6; 2. е2-е4, d7-d5; 3. Кb1-с3, Кg8-f6; 4. е4-е5, Кf6-d7; 5. f2-f4, с7-с5; 6. Кg1-f3, Кb8-с6; 7. Кс3-е2, с5 : d4; 8. Ке2 : d4, Ксb : d4; 9. Фd1-d4, Cf8-с5; 10. Фd4-d3, Фd8-b6; 11. Cf1-е2, f7-f6 (такую пазыцыю кожны хацеў-бы мець, якой дасягнулі чорныя. Аднак-жа Султан-Хан з вялікім уменьнем праводзіць абарону і, дачакаўшыся памылкі Тартаковера, партыю выйгрывае); 12. Фd3-b3, Сс5-f2+ 13. Крe1-d1, 0—0; 14. Фb3 : b6, Cf2 : b6; 15. Се2-d3, Кd7-с5; 16. Лh1-е1, Сс8-d7; 17. Сс1-е3, Кс5 : d3; 18. с2 : d3, Сb6 : 3; 19. Ле1 : е3, Ла8-с8; 20. Ла1-с1, f6 : е5; 21. Лс1 : с8, Cd7 : с8; 22. f4 : е5, Сс8-d7; 23. Крd1-d2, h7-h6; 24. Кf3-d4, Лf8-f2+ 25. Ле3-е2, Лf2 : е2+? 26. Крd2 : е2, Крg8-f7; 27. Кре2-f3, Крf7-е7; 28. Крf3-е3, Cd7-е8; 29. h2-h4, а7-а6; 30. b2-b4, b7-b6; 31. а2-а3, Се8-а4; 32. Кре3-d2, Са4-d7; 33. Крd2-е3, Кре7-f7; 34. Кре3-f4, Крf7-е7; 35. Кd4-е2, Cd7-е8, 36. Ке2-с3, Кре7-f7; 37. g2-g4, g7-g6; 38. Крf4-е3; Крf7-е7; 39. g4-g5, Кре7-d8; 40. h4 : g5, Кре7-d8; 41. Кре3-d4, Се8-f7; 42. Кс3-е2, Крd8-с7; 43. Крd4-с3, Cf7-е8; 44. Крс3-b3, Крс7-b7; 45. а3-а4, а6-а5; 46. Ке2-d4, Се8-d7; 47. Крb3-а3! Крb7-а6; 48. Кd4-b3, Cd7-с8; 49. b4 : а5, b6 : а5; 50. Кb3-с5+ Кра6-b6; 51. d3 d4, Крb6-с6; 52. Кс5-d3, Сс8-d7; 53. Кd3-f4, Cd7-е8; 54. Кf4 : е6, Се8-d7; 55. Ке6-с5, Cd7-е8; 56. Кра3-b3, Крс6-с7; 57. Крb3-с3, Крс7-с6; 58. Крс3-d3, Крс6-с7; 59. Крd3-е3, Крс7-с6; 60. Кре3-f4, Крс6-с7; 61. е5-е6! Крс7-d6; 62. е6-е7, Сс8-сb; 63. Кс5-b7+ Крd6 : е7; 64. Кb7 : а5, Сс6 : а4; 65. Крf4-е5, Са4-е8; 66. Кре5 : d5, Се8-а4; 67. Крd5-е5, Са4-е8; 68. d4-d5, Се8-а4; 69. Ка5-b7, Са4-b5; 70. Кb7-с5, Сb5-f1; 71. Кс5-е6, Cf1-b5; 72. Ке6-с5, Сb5 f1; 73. Кс5-е4, Cf1-d3; 74. Ке4-f6, Cd3-b5; 75. Кf6-g8+ Кре7-f7? 76. Кре5-d6! Сb5-а4; 77. Кg8-h6+ Крf7-е8; 78. Кh6-g4, Са4-с2; 79. Кg4-е5, Сс2-е4; 80. Крd6-е6, Се4-f5+ 81. Кре6-f6, Cf5-е4; 82. d5-d6, Се4-с2; 83. d6-d7+ Кре8-d8; 84. Крf6-е6, Сс2-f5+; 85. Кре6-d6, Cf5 : d7; 86. Ке5 : d7, Крd8-е8; 87. Ка7-е5. Чорныя здаліся. Вельмі напруджаная і добра праведзена белымі партыя.

---

Цана 15 кап.

## АДДЗЕЛ ПАДПІСКІ І ПЭРЫЯДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА

# АДЧЫНЕНА ПАДПІСКА НА 1931 ГОД

на часопісь літаратуры, мастацтва і крытыкі

# „УЗВЫШША“

**ВЫДАНЬНЕ БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА**

**ВЫХОДЗІЦЬ 12 КНІГ У ГОД**

**„УЗВЫШША“**—друкуе мастацкія творы беларускіх і іншакраёвых пісьменьнікаў, шырока асьвятляе пытаньні поэзіі і наогул усіх галін мастацтва.

**„УЗВЫШША“**—жыва адклікаецца ў мастацкім слове на ўсе пытаньні палітычнага, літаратурнага і мастацкага жыцьця.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

на 1 год . . . . . . . . . . . . 6 р. —
на 6 мес. . . . . . . . . . . . . 3 р. 50 к.
на 3 мес. . . . . . . . . . . . . 2 р. 30 к.

## АСОБНЫ НУМАР—80 кап.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у аддзеле падпісных і пэрыядычных выданьняў БДВ, Менск, Савецкая, 79, усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, ва ўсіх паштова-тэлеграфных канторах і крамамі спажывецкай коопэрацыі.

Друкарня імя Сталіна Зак. №648 Галоўлітбел № 1031